*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 4 (492) 24 СТУДЗЕНЯ 2001 г.

## Рэспубліканская рада ТБМ

**3-га лютага 2001-га года ў 11 гадзін у тэатральнай зале Чырвонага касцёла адбудзецца чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ.**

**Парадак дня:**

**1. Аб падрыхтоўцы і правядзенні чарговага VII з'езду ГА ТБМ імя Францішка Скарыны.**

**2. Дзейнасць Таварыства па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.**

## На парадку дня

### Стратэгія развіцця беларускай мовы

**27 студзеня 2001 года ў 13.00 у сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 у Менску адбудзецца першае паседжанне рабочай групы па падрыхтоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі**

**Парадак дня:**

**1. Выбары намесніка старшыні камісіі і сакратара (адказны-А. Трусаў).**

**2. Арганізацыя працы групы (адказны - С. Запрудскі).**

*Да 80-годдзя Івана Мележа*

## Гімназія імя Мележа

Па прапанове старшакласнікаў першай створанай у Гомелі гімназіі прысвоена імя земляка -- вядомага пісьменніка Івана Мележа. Гэта і вызначыла паглыблены напрамак дзейнасці па збору матэрыялаў пра яго жыццё і творчасць, стварэнне ў гімназіі класа-музея І. Мележа. Гімназісты і педагогі падтрымліваюць цесныя сувязі са сваякамі пісьменніка, домам-музеем у яго роднай вёсцы Глінішча Хойніцкага раёна.



**На здымку:** выпускніца гімназіі, а цяпер выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Наталля Новікава загадвае класам-музеем І. Мележа. А для ахвотных можа выканаць пад гітару і любімую песню Івана Мележа "Шумяць вербы".

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

## Друкуем вынікі перапісу

Перапіс 1999 года паводле задумкі нашых уладаў павінен быў паказаць поўнае знікненне беларусаў з Беларусі. Як прагучала з тэлеэкрана БТ – "у нас 40% рускіх, 20 % палякаў, астатняя мяшаныя". Вынікі перапісу, сціпла замоўчаныя ўладамі, некалькі іншыя. Рускіх аказалася ўсяго 11%, палякаў – 4%, а 81% - усё такі беларусы, якіх не павінна было ўжо быць.

Не прайшло і 1,5 года, як ТБМ дамаглося ад Міністэрства статыстыкі часткі інфармацыі па выніках перапісу, якая тычыцца нацыянальнага складу і моўнай сітуацыі.

Улады ўскладвалі тут асноўны спадзеў на тое, што ў нашай краіне ў выніку суцэльнай русіфікацыі беларуская мова цалкам забытая, але вынікі зноў аказаліся далёкія ад замоўленых. 73,7% насельніцтва назвала беларускую мову роднай, 36,7% размаўляюць па-беларуску дома. Другі міф, які развеяў перапіс, гэта тое, што ў нас усе вольна валодаюць рускай мовай і беларуская нам не трэба. На самой справе больш 20% насельніцтва Беларусі рускай мовай не валодае.

І ўжо зусім адкрыццём з'яўляецца тое, што на Беларусі ёсць катэгорыі насельніцтва, якія размаўляюць амаль выключна па-беларуску. Гэта, па-першае, вясковае насельніцтва. У некаторых абласцях сярод беларусаў гэта больш 90%. Асаблівую катэгорыю складаюць вяскоўцы, якія пішуцца палякамі. Па краіне 84,9% вясковых "палякаў" размаўляе дома па-беларуску. Толькі 41,9% з іх валодаюць рускай мовай. Па абласцях гэта выглядае яшчэ каларытней. У Менскай вобласці 92,1% вясковых "палякаў" дома размаўляюць па-беларуску. У Гарадзенскай вобласці – 85,4%, у Віцебскай вобласці – 75,4%, у Берасцейскай вобласці – 89,9%.

У Менскай і Гарадзенскай абласцях больш 50% усяго насельніцтва размаўляе дома па-беларуску і 30% не валодае рускай мовай.

Таму поўнае задушэнне беларускамоўнай адукацыі, што адбываецца ў краіне, ніякай дэмаграфічнай сітуацыяй не тлумачыцца.

**Сёння мы на ст. 2 і 3 друкуем раздзелы 5.2 і 5.3 вынікаў перапісу, якія пераслала ў ТБМ Міністэрства статыстыкі і аналізу. Калі ласка, аналізуйце.** У сваю чаргу Міністэрства абяцае выдаць вынікі перапісу асобнай кнігай.

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня



## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| Табушава Ірына | 1000 руб. |
| Брызінская Лілея | 500 руб. |
| Брызінскі Антон | 200 руб. |
| Шатэрнік Ніна | 250 руб. |
| Шатэрнік Таццяна | 250 руб. |
| Ханько Таіса | 1000 руб. |
| Янчанкаў Пётр | 150 руб. |
| Кавалец Алесь | 500 руб. |
| Цытанкова Тамара | 400 руб. |
| Белахвостава Людміла | 200 руб. |
| Рак Вольга | 200 руб. |
| Калінка Святлана | 300 руб. |
| Ганчарык Галіна | 200 руб. |
| Грынчык Мікалай | 170 руб. |
| Красоўская Вольга | 200 руб. |
| Спеўны гурт БНФ | 5500 руб. |
| Пачатковая школа-гімназія "МОКА" | 5560 руб. |
| Школа № 110 | 4420 руб. |
| Галай Аркадзь | 3000 руб. |
| Ігнатовіч Мікола | 5000 руб. |
| Пліска Ларыса (Калінінград) | 200 рас. руб. |
| Дзямчук Іван (Лідскі р-н) | 5000 руб. |
| Казлоўская Іна | 500 руб. |
| Закрэўская Таццяна (Ліда) | 2000 руб. |

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Але маўчаць у большасці майстры прыгожага пісьменства. Хай даруюць мне крыўдныя словы тыя, каму сапраўды баліць душа, і яны б'юцца, як рыба аб лёд, каб зберагчы Богам дадзеную нам мову і краіну. Але іх, на мой погляд, усяго дзесяткі два-тры, не болей.

**Валянціна Гаркун**
**"Народная воля" 22.12.2000 г.**

*Еўропа быццам бы не аспрэчвае важнасці беларускай незалежнасці, але дзе вы бачылі, каб які адзін еўрапейскі дыпламат у Беларусі гаварыў па-беларуску хаця бы для прыліку? Самы яскравы прыклад "дызарыентацыя на мясцовасці" – праграма французскай амбасады "Багдановіч", што існуе дзеля заахвочвання перакладаў з французскай мовы. У рамках яе выйшаў дваццатак кніг па-расейску і дзве брашуркі па-беларуску.*

***"Наша ніва" № 52, 26.12.2000г.***

Менавіта дзеля таго (знішчэння нашае дзяржаўнасці – Я.П.) вядзецца наступ на беларускую мову і метадычна закрываюцца беларускамоўныя класы, а ў дзіцячых садках выхаванне нашых дзяцей і ўнукаў вядзецца не на роднай, а на замежнай мове. Родная ж для адводу вачэй вывучаецца як... замежная. І робіцца гэта нібыта "па жаданні" бацькоў, якіх падштурхоўваюць да гэтага і ўгаворваюць. Бо беларуская мова перашкаджае ператварыць Беларусь у аднамоўны прыдатак Расіі.

**Марат Гірко,**
**"Народная воля", 30.12.2000 г.**

*Хіба не абавязак святара – настаўляць моладзь, каб яна ўваходзіла ў жыццё з роднай мовай у сэрцы, каб ішла вучыцца ў школы з беларускай мовай выкладання, каб цягнулася душой да беларускай кнігі, беларускага часопіса і газеты, да беларускай песні і беларускага тэатра, увогуле – да беларускага слова?*

***Ніл Гілевіч,***
***"Народная воля",5.01.2001 г.***

Няма неабходнасці называць расейскія словы, бо ў нас сваіх адметных хапае. Яшчэ ў 1842 годзе наш зямляк, геніяльны паэт Адам Міцкевіч пісаў пра беларускую мову: "... гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і выдатна распрацавана..." гэтым быццам добра карысталіся і самі прымнажалі яго Янка Купалы, Максім Багдановіч, Кузьма Чорны і шмат іншых майстроў мастацкага слова.

**Яўген Мікітаў, Орша,**
**Народная воля, 10.01.2001 г.**

*Сама я – руская, ураджэнка Сібіры, але афіцыйнае невыкарыстанне беларускай мовы мяне, як грамадзянку Рэспублікі Беларусь (жыву тут з 1958 года), усхвалявала і абурыла. Ды як жа гэта так, каб прыродная, радзінная мова дарагой, любай краіны, якая стала для мяне другой (паліку, а не паважнасці!) радзімай, не заслужыла таго, каб прагучаць з вуснаў першай дзяржаўнай асобы?! І ўвогуле такія ўрачыстыя, знакавыя афіцыйныя прамовы спачатку павінны гучаць на роднай мове карэнных жыхароў, а затым ужо на іншай, якую тут укаранялі дзяржаўныя рэжымы Расійскай імперыі, СССР, БССР і ўсяляк пашырае Рэспубліка Беларусь.*

***Ефрасінія Андрэева,***
***Народная воля, 12.01.2001 г.***

Я чалавек беларускай культуры і беларускай мовы. Мне ўсюды будзе кепска. Хто ўладкаваўся на Захадзе, хай ім будзе добра. Мне добра можа быць толькі тут.

**Міхаіл Фінберг,**
**"Комсамольская правда", 5.01.2001 г.**



№ 4 (492) 24 СТУДЗЕНЯ 2001 г. наша слова

М. С. Яўневіч

# ДА ГІСТОРЫІ ПРЫНЯЦЦЯ ЗАКОНА “АБ МОВАХ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ “ І ЯГО РЭАЛІЗАЦЫІ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Пасля абмеркавання праекту Дзяржаўнай праграмы ў Савеце Міністраў, з улікам заўваг і прапаноў, выказаных на пасяджэннях камісіі, а таксама міністэрствамі і ведамствамі, аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам, грамадскімі арганізацыямі, 28 верасня 1990 г. праект Праграмы быў зацверджаны пастановай Савета Міністраў.

У стварэнні гэтага дакумента ўдзельнічала абсалютная большасць членаў камісіі, што рыхтавалі Закон аб мовах. Узначальвала камісію намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н.М. Мазай. Праграма вызначаецца глыбокай змястоўнасцю і мэтанакіраванасцю; складаецца яна з 5 раздзелаў, якія ахопліваюць дзейнасць Закона аб мовах ва ўсіх сферах грамадскага жыцця і вызначаюць шляхі яго выканання ў поўным аб’ёме.

Было прадугледжана Пастановай ход выканання Дзяржаўнай праграмы кожны год абмяркоўваць у Савеце Міністраў (з 1991 г.).

У прэамбуле Праграмы справядліва адзначаецца, што “беларуская мова павінна заняць сваё годнае месца ў жыцці беларускага народа”. Як бачым, значэнне і роля гэтага ўрадавага дакумента для рэалізацыі Закона аб мовах бяспрэчныя.

Пасля прыняцця гэтых важных дзяржаўных дакументаў беларуская мова як дзяржаўная паступова, хоць і павольна, стала ўваходзіць ва ўсе сферы дзейнасці грамадства. Асабліва прыкметная дзейнасць Закона стала ў сістэме народнай адукацыі: павялічвалася колькасць школ з беларускай мовай навучання, беларускае слова часцей загучала ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, шырэй пачала выдавацца на беларускай мове вучэбная літаратура па розных дысцыплінах і г.д. Рэалізацыя палажэнняў Закона аб мовах, нягледзячы на перашкоды, стала паступова набіраць сілу.

Гаворачы пра выкананне Закона аб мовах, спынімся на прыкладзе адной буйнейшай педагагічнай навучальнай установы Рэспублікі Беларусь – Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка (былога Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага). У калектыве выкладчыкаў і студэнтаў, іншых супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Закон аб мовах і Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Беларусі былі ўспрыняты прыхільна. Заўважым, што яшчэ да прыняцця Закона аб мовах на паседжанні Вучонага савета (27 кастрычніка 1988 г.) было абмеркавана актуальнае для таго часу пытанне – “Аб практыцы і мерах паляпшэння выкладання і вывучэння беларускай мовы і літаратуры ў інстытуце”. У сваёй пастанове Савет тады запісаў: “У 1989-90 навучальным годзе на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта забяспечыць чытанне большасці дысцыплін (псіхолага-педагагічных, грамадскіх і інш.) на беларускай мове”. Была створана камісія, якая сістэматычна інфармавала рэктарат і Савет аб ходзе выканання гэтай пастановы. І пастанова паслядоўна, няўхільна выконвалася.

Акрамя гэтага, у 1989 г. была распрацавана і зацверджана Вучоным саветам Комплексная праграма “Роднае слова”, у якой вызначаліся некаторыя мерапрыемствы адносна пераходу да выкладання асноўных вучэбных прадметаў на беларускай мове. Комплексная праграма “Роднае слова” пасля прыняцця Закона аб мовах (1990) атрымала сваё развіццё і канкрэтызацыю ў Мерапрыемствах па выкананні Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы, распрацаваных з улікам канкрэтных задач, якія ўзніклі ў гэтай сувязі перад універсітэтам.

Пытанні аб стане беларускай мовы, аб выкананні Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых моваў, аб выкананні Мерапрыемстваў, вызначаных Саветам, абмяркоўваліся рэгулярна, на высокім узроўні – тройчы на пасяджэннях Вучонага Савета інстытута (май 1990 г., май 1991 г., красавік 1992 г.), на рэктараце (у 1993 г., 1994 г.), на пасяджэннях Саветаў усіх факультэтаў, на пасяджэннях кафедраў – і не адзін раз. Прымаліся канкрэтныя пастановы, выпрацоўваліся Мерапрыемствы і планы на кожны навучальны год. Прымаліся спецыяльныя праграмы, якія абавязвалі выкладчыкаў усіх спецыяльнасцяў забяспечыць на практыцы выкананне Закона аб мовах. Выкананне прынятых пастаноў, планаў, праграм правяралася. Было вырашана закончыць пераход да выкладання асноўных дысцыплін на беларускай мове ў 1994-1996 гг. У Мерапрыемствах, якія дапрацоўваліся, удакладняліся, вызначаўся шлях да поўнага пераходу на выкладанне вучэбных прадметаў на беларускай мове, прадугледжвалася стварэнне вучэбнай літаратуры, слоўнікаў на беларускай мове, вывучэнне беларускай мовы выкладчыкамі, аспірантамі, іншымі супрацоўнікамі універсітэта.

За час, калі ўступіў у сілу Закон аб мовах і пачалося выкананне Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы, калектыў навукова-педагагічных работнікаў універсітэта зрабіў значны крок наперад па рэалізацыі асноўных палажэнняў гэтых дзяржаўных дакументаў: дзесяткі вучэбных дысцыплін сталі выкладацца на беларускай мове, беларуская мова становіцца рабочай мовай пасяджэнняў Вучоных саветаў, кафедраў, на ёй пішуцца вучэбныя планы, расклады заняткаў, аб’явы, паведамленні, насценныя газеты, афармляецца наглядная агітацыя і г.д. Беларуская мова выкладаецца ў групах аспірантаў I і II гадоў навучання, дзе 12—гадзінны курс закончваецца залікам, пры паступленні на ўсе факультэты абітурыенты здаюць уступны экзамен па беларускай мове і літаратуры. Прыкметна змяніліся адносіны абсалютнай большасць выкладчыкаў да ідэі выкладання праграмных вучэбных дысцыплін, стварэння вучэбна-метадычнай літаратуры для студэнтаў на беларускай мове.

Каб аказаць дапамогу выкладчыкам у падрыхтоўцы іх да выкладання вучэбных прадметаў па-беларуску і іншым супрацоўнікам, былі адкрыты курсы па вывучэнні беларускай мовы, створаны кансультацыйныя пункты, якія працавалі рэгулярна.

У 1991 г. створаны факультэт беларускай філалогіі і культуры.

У канцы 1991 г. загадам рэктара была створана спецыяльная атэстацыйная камісія па беларукай мове ў складзе 15 чалавек, у задачу якой уваходзіла вызначэнне ступені падрыхтаванасці выкладчыкаў да чытання лекцый, правядзення практычных і семінарскіх заняткаў на беларускай мове. узначальваў камісію тады яшчэ першы прарэктар інстытута прафесар Л.Н. Ціханаў, намеснік старшыні – дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры дацэнт А.І.Лугоўскі, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства прафесар М.С. Яўневіч.

У 1992 – 1994 гадах прайшлі атэстацыю на права выкладаць вучэбныя дысцыпліны па-беларуску каля 400 выкладчыкаў, гэта амаль палова ўсяго выкладчыцкага персаналу. На некаторых факультэтах (беларускай філалогіі і культуры, фізічным, матэматычным, гістарычным, прыродазнаўчым, педагогікі і методыкі пачатковага навучання, дашкольнага выхавання і інш.) усе атэставаныя выкладчыкі чыталі, а большасць і цяпер чытаюць лекцыі і праводзяць практычныя і семінарскія заняткі на беларускай мове. З прыемнасцю адзначу, што сярод такіх прафесары Е.Г. Андрэева – руская па нацыянальнасці, Э.Р. Ёфе – яўрэй па нацыянальнасці, дацэнт І.І. Канапацкі – татарын па нацыянальнасці і інш.

Наогул многія кіраўнікі факультэтаў, кафедраў, педагогі сур’ёзна ставіліся і ставяцца да моўнай праблемы. На некаторых факультэтах курс беларусізацыі, нацыянальнага адраджэння амаль не змяніўся.

Выкананне Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Беларусі пастаянна было ў полі зроку рэктарата, дэканатаў і кафедраў універсітэта. Хачу адзначыць, што кіраўніцтва універсітэта сярод іншых артыкулаў цалкам выконвала і зараз выконвае артыкул 4 Закона аб мовах, які абвясціў: “Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных установ ... павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб’ёме, неабходным для выканання службовых абавязкаў”. Прыклад вялікаму калектыву выкладчыкаў і іншых супрацоўнікаў у першую чаргу паказваў і паказвае былы першы прарэктар, а цяпер ужо (больш за сем гадоў) рэктар універсітэта акадэмік, прафесар Леанід Міканоравіч Ціханаў, які адразу пасля прыняцця Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Беларусі з поўнай адказнасцю паставіўся да гэтых надзвычай важных дзяржаўных дакументаў і не на словах, а на справе паслядоўна, мэтанакіравана дабіваўся рэалізацыі іх. Рэктар сам валодае беларускай мовай і прыкладае шмат намаганняў, каб ва універсітэце больш часта і гучна чулася беларускае слова. Усе прарэктары, дэканы, большасць загадчыкаў кафедраў і іншыя супрацоўнікі таксама добра валодаюць беларускай мовай і часта карыстаюцца ёй на пасяджэннях Вучонага савета універсітэта, рэктарата, на пасяджэннях Саветаў факультэтаў і кафедраў і інш. Несумненна, гэта робіць дабратворны ўплыў на ўвесь калектыў.

За некалькі гадоў пасля прыняцця Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы ў выніку напружанай працы ўсяго вялікага калектыву нам удалося дасягнуць значных поспехаў на шляху беларусізацыі. Але ў апошнія гады становішча стала змяняцца не ў лепшы бок. Як вядома, так званы рэферэндум, праведзены ўладай у маі 1995 г., адмоўна адбіўся на становішчы беларускай мовы ў краіне – моцна ўдарыў па Законе аб мовах. Увядзенне дзвюх дзяржаўных моваў у Рэспубліцы Беларусь фактычна паставіла пад пагрозу не толькі беларускую мову, яе існаванне, але і суверэнітэт нашай дзяржавы. Цяпер стан беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь такі, што выклікае вялікую трывогу: пашырэнне яе ўжывання ў розных сферах прыкметна спыняецца, звужаецца выкарыстанне беларускай мовы навучання ў ВНУ, змяншаецца колькасць вучняў, якія навучаюцца на беларускай мове ў гарадскіх пачатковых школах і г.д. Напрыклад, у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце некаторыя выкладчыкі пачалі сыходзіць з намечанага шляху. Там-сям назіраецца “адкат” з ранейшых пазіцый. Таму моўнае пытанне пры сённяшняй сітуацыі павінна знаходзіцца ў цэнтры нашай ўвагі.

Аднак трэба не забываць, ведаць, што рэферэндум не адмяніў статус беларускай мовы як дзяржаўнай, не адмяніў і Закон аб мовах – ён павінен дзейнічаць.

Што сёння нам неабходна рабіць, каб выконваўся Закон аб мовах?

Трэба працаваць сістэматычна і мэтанакіравана – кіраўнікам і шарагоўцам, калектывам і кожнаму пасобку, каму дарагая наша Бацькаўшчына. Неабходна прыкласці намаганні, каб не страціць тое, што мы набылі за апошнія 10 гадоў. Прымаючы пад увагу такое трывожнае становішча, у якім апынулася беларуская мова, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь распрацавала і прыняло ў ліпені 1999 года “Праграму дадатковых мер па развіцці беларускай мовы ў сістэме адукацыі”.

З улікам такой складанай моўнай сітуацыі па рашэнні рэктарату ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце падрыхтавана, зацверджана Вучоным саветам і надрукавана асобным выданнем “Перспектыўная праграма падтрымкі беларускай мовы”, якая вызначае асноўныя напрамкі падтрымкі і развіцця беларускай мовы ў дзейнасці БДПУ. Праграма ставіць за мэту: стварыць умовы для падрыхтоўкі выпускнікоў, якія свабодна валодаюць беларускай мовай і змогуць без цяжкасці выкарыстоўваць яе ва ўсіх сферах сваёй будучай дзейнасці; забяспечыць выкладанне ўсіх вучэбных дысцыплін на беларускай мове; аднавіць работу пастаяннай атэстацыйнай камісіі; зрабіць беларускую мову рабочай мовай універсітэта; весці справаводства універсітэта на беларускай мове і г.д.

Маштаб гэтай праграмы, як бачым, вялікі, надзеі на яе пазітыўную ролю ў паляпшэнні становішча беларускай мовы ў ВНУ – рэальныя.

Заўважым, што перапіс насельніцтва, праведзены ў нашай Рэспубліцы ў 1999 г., паказаў што за 9 гадоў свайго дзеяння Закон аб мовах і Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншыя падзеі зрабілі значны ўплыў на павышэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў, у многіх нашых суайчыннікаў адбылося абуджэнне нацыянальнай годнасці: звыш 80% грамадзян Беларусі назвалі сябе па нацыянальнасці беларусамі, каля 37% (амаль 4 млн. чалавек) беларускую мову назвалі мовай штодзённых зносін. Гэта дае падставу спадзявацца, што, нягледзячы на ўсе перашкоды, выпады супраць беларускай мовы як дзяржаўнай, на ўвядзенне другой дзяржаўнай мовы, Закон аб мовах працуе, хоць, вядома, не з такой аддачай, інтэнсіўнасцю, як гэтага хацелася б.

Прыняцце Закона “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў – гэта знамянальная падзея ў гісторыі Беларусі, у развіцці і адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры і дзяржаўнасці. Значэнне гэтых дакументаў для Рэспублікі Беларусь, яе народа – надзвычай вялікае. Несумненна, гэтыя дакументы зоймуць пачэснае месца ў беларускай гісторыі.

Хоць факт застаецца фактам, што беларуская мова сёння ў цяжкім становішчы, у небяспецы і патрабуе падтрымкі, дапамогі, але нас, беларусаў, не павінен пакідаць аптымізм, вера ў справядлівасць, надзея на лепшыя часы для роднай беларускай мовы і суверэннай Беларускай дзяржавы. Будзе цвёрдая вера, упэўненасць, падмацаваныя штодзённай працай на карысць беларускай мовы, тады, спадзяёмся, роднай беларускай мове-маці вучыць сучаснае і будучыя пакаленні дабру, радаваць усіх сваёй мілагучнасцю і багаццем слова.

Беларускай мове – назаўсёды быць дзяржаўнай, бо яна бессмяротная, як бессмяротны і носьбіт яе – беларускі народ.





# КАЛЯНДАР СТУДЗЕНЯ

## Класік савецкай беларускай літаратуры

### Да 80-годдзя са дня нараджэння Івана Шамякіна

Быў час – была сістэма. І кожны з нас у той ці іншай ступені яе выхаванец. Выхаванец свайго часу. Ісціна святая, яна існуе з пакон веку. Самы справядлівы суддзя – час. Толькі ён ставіць апошнія кропкі над "і". А ў людзей заўжды суб'ектыўныя меркаванні. Такое меркаванне маю і я. І ўсё ж – сваю думку я аддаю волі часу, але з вялікім імпэтам і непамернай зайздроснасцю працавітасці хацеў бы мець гонар пераказаць біяграфічны і творчы шлях Івана Пятровіча Шамякіна з нагоды яго дня нараджэння.

Перш чым распавядаць біяграфічны шлях гэтага чалавека трэба нагадаць тытулы і яго ўшанаванні.

Іван Пятровіч з'яўляецца сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1947 года. З 1972 года ён народны пісьменнік Беларусі і яго творы ў гады свайго школьнага і студэнцтва мы вымушаны былі вывучаць абавязковым чынам. Да гэтага часу ён дамогся самых разнастайных ушанаванняў. У 1951 годзе Іван Шамякін за раман "Глыбокая плынь" атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР. У 1957 годзе за раман "Крыніцы" меў Літаратурную прэмію імя Я. Коласа. Надалей за раман "Сэрца на далоні" ды пенталогію "Трывожнае шчасце" у 1967 годзе быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Я. Коласа.

У 1981 годзе Іван Шамякін тытулаваны вышэйшай ўзнагародай СССР – Герой Сацыялістычнай Працы.

Ён дасягнуў усіх вяршынь у той дзяржаве, але яго не забываюць прэміраваць. У 1982 годзе за кінафільм "Вазьмы твой боль" меў Дзяржаўную прэмію БССР у галіне тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі, радыё і тэлебачання.

Жыццёвы шлях Івана Шамякіна меў сціплы пачатак. Ён нарадзіўся 30 студзеня 1921 года ў вёсцы Карма ў звычайнай сялянскай сям'і. Дзед меў мала зямлі і таму жыў бедна. З гэтай нагоды бацька, Пятро Мінаевіч, вымушаны быў ездзіць на заработкі. З 1925 года ён пачаў працаваць лесніком у Цярэшкавічах пад Нова-Беліцай. Надалей Пятро Шамякін працаваў лесніком у розных мясцінах аж да 1965 года.

Прынамсі, і з гэтай нагоды Іван у школу пайшоў позна, на дзевятым годзе. Да пятага класа вучыўся в. Краўцоўка. Пасля заканчэння сямі класаў Макаўскай школы працягваў навучанне ў Гомельскім тэхнікуме будаўнічых матэрыялаў, які закончыў у 1940 годзе. Тут жа ён пачаў пісаць вершы і стаў актыўным супрацоўнікам літаратурнага аб'яднання пры г-це "Гомельская праўда". У гэты час пачаў літаратурныя спробы ў жанры прозы. Адно невялікае апавяданне Шамякін адаслаў у Менск і нечакана на яго атрымаў грунтоўную на некалькі старонак, рэцэнзію М. Лынькова, які тады ўзначальваў СП Беларусі і быў галоўным рэдактарам часопіса "Полымя рэвалюцыі". Пасля заканчэння вучобы ў тэхнікуме быў накіраваны ў Беласток, але працаваў не доўга. Неўзабаве быў мабілізаваны ў войска. Служыў у зенітна-артылерыйскай частцы, удзельнічаў у абаронных баях пад Мурманскам, Кандалакшай, Петразаводскам, у Польшчы, закончыў вайну ў званні афіцэра. Пісаў вершы і друкаваў іх у армейскай газеце "Часовой Севера". З 1945 па 1948 год настаўнічаў у вёсцы Пракопаўка Церахаўскага р-на. У 1946 годзепаступіў на завочнае аддзяленне Гомельскага педінстытута імя В. Чкалава. У 1948 годзе пайшоў вучыцца ў Рэспубліканскую партыйную школу. Пасля яе заканчэння працаваў ст. рэдактарам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. З гэтага часу, як жыццёвы так і творчы шлях яго, непасрэдна звязаны з літаратурай. Яна – яго натхненне, яна – яго дабрабыт. Неўзабаве стаў галоўным рэдактарам альманаха "Советская Отчизна", а ў 1954 годзе працаваў намеснікам старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі; з 1966 – сакратаром праўлення, з 1968 – другім сакрата-ром, з 1971 – першым намеснікам старшыні і з 1976 – першым сакратаром СП Беларусі. З 1980 па 1992 галоўны рэдактар Беларускай Энцыклапедыі. З 1990 года Іван Шамякін сябар Рады СП Беларусі.

Не цураўся Іван Пятровіч і грамадскай дзейнасці. Быў актыўным праваднікам пастулатаў камуністычнай улады і Саветаў.

У 1963 годзе ў складзе дэлегацыі БССР удзельнічаў у працы ХУІІІ сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. У свой час быў дэпутатам ВС БССР і СССР, старшынём ВС БССР.

Дасягнуўшы такіх адміністрацыйных вяршынь Іван Шамякін меў адпаведна шэраг урадавых узнагародаў: тры ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі, два ордэны Леніна, Айчыннай вайны, Дружбы народаў, "Знака Пашаны", медаль Ф. Скарыны і шэраг іншых медалёў. Ён таксама Лаўрэат юбілейнай літаратурнай прэміі Міністэрства абароны СССР (1978 г.), а за шэфскую працу атрымаў званне Выдатніка міліцыі.

Як ужо было адзначана вышэй, Іван Пятровіч напачатку сваёй творчай дзейнасці меў непасрэдныя стасункі з кіраўніцтвам СП, быў яго кіраўніком і многія гады праца гэтага органа непасрэдна накіроўвалася юбілярам, а таму ў гэтага пісьменніка творы не перапісваліся па некалькі разоў запар і не захоўваліся ў шуфлядзе да лепшых часоў. Усё што выходзіла з-пад пяра Шамякіна друкавалася і мела шырокі доступ да чытача.

Можна, вядома, зрабіць пералік твораў напісаных класікам беларускай літаратуры часоў сацыялістычнага рэалізму. Нажаль у газеце зрабіць токое немагчыма, бо нават у Бібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" пералік выданых і надрукаваных твораў Івана Пятровіча Шамякіна, што здзейснены дробным шрыфтам займае 16 старонак.

Зайздросная літаратурная спадчына!

У стылі сацыялістычнага рэалізму працуе пісьменнік і сёння. Творы апошніх гадоў не сышлі з класавых пазіцый, а беларуская гісторыя так і разглядаецца праз савецкія акуляры.

Мабыць Шамякіну мяняцца позна ды і не трэба. Ён застаецца песняром сваёй эпохі.

*Язэп Палубятка.*

# "СПЕВЫ ПРА ДАЎНІХ ЛІЦЬВІНАЎ ДА 1434 ГОДА"

## XXVIII. ДАВІД, СТАРАСТА ГАРАДЗЕНСКІ Ў ЧАСЫ ГЕДЫМІНА, 1322 г.

**Ян Чачот, пераклад Кастуся Цвіркі** **Музыка Яўгена Петрашэвіча**




Па-над Нёмнам у Гародні
Колісь замак моцны стаў.
Шмат разоў крыжак ды мазур
Хмары стрэл па ім пускаў.

Быў за старасту ў тым замку
Смелы, годны муж Давід.
Мчаў з дружынай ён на Рэвель
Праз крыжацкі краявід.

Шмат дабра узялі воі.
Тысяч пяць паненак з ім,
Болей быў ліцьвін давольны,
Як здаўна, палонам тым.

А пасля Давіда ў помач
Гедымін Лакетку даў.
Хоць дапяў ён да Франкфурта,
Ды палону там не браў.

Бо йдучы назад героем,
Меўся ўзяць мазураў ён.
Толькі ў гэтых гайдамакаў
Сам Давід знайшоў свой скон.

Мазур быў з канём падкраўся
Да яго й прашыў наскрозь.
Наш Давід славуты тут жа
Цяжка ўпаў, бы дужы лось.

# Янку Сіпакову – 65

Знакамітым чалавека можа зрабіць адзін выраз. І гэта не пустыя словы, не трызненне. Нават калі б Янка Сіпакоў пасля "Веча славянскіх балад" не выдаў болей кніг як і не напісаў іншых твораў у беларускай літаратуры яго імя ўсяроўна заняло б пачэснае месца.

Іван Данілавіч Сіпакоў нарадзіўся 15 студзеня 1936 года ў вёсцы Зубрэвічы Аршанскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. У гады Вялікай Айчыннай вайны страціў бацькоў. Яны былі закатаваны немцамі за сувязь з партызанамі. Надалей хлопца выхоўвала бацькавая сястра. Надалей ён вучыўся ў Зубрэвіцкай сярэдняй школе, а, паколькі вымушала нястача, адначасова працаваў паштальёнам.

У 1953 годзе будучы яшчэ школьнікам надрукаваў у Аршанскай раённай газеце "Ленінскі прызыў" першы верш. Жаданне пісаць дало Янку Сіпакову пасля заканчэння дзесяцігодкі некаторы час (1954 – 1955 гг.) працаваць літсупрацоўнікам шклоўскай раённай газеты "Чырвоны барацьбіт". Потым была вучоба ў Белдзяржуніверсітэце на аддзяленні журналістыкі, якую скончыў у 1960 годзе. Надалей на працягу 13 гадоў працаваў у часопісе "Вожык", потым загадчыкам аддзела мастацтва крытыкі і бібліяграфіі часопіса "Маладосць". У год заканчэння вучобы ўжо выдаў першую кнігу паэзіі "Сонечны дождж". Надалей пісьменнік Янка Сіпакоў выдаваў кнігі з зайздросным пастаянствам: "Лірычны вырай" (1965), "Дзень" (1968), "Пра зялёную маланку (1971), "З вясны ў лета" і гэтак далей.

У 1973 годзе пабачыла свет кніга "Веча славянскіх балад", а ў 1976 годзе за яе Янка Сіпакоў атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы.

Янка Сіпакоў працуе ў самых разнастайных жанрах. З-пад яго пяра выйшлі зборнікі гумарэсак "Лысы юбілей". і "Плюс на мінус". Піша ён і сталую прозу. У свой час чытач знаёміцца з яго кнігай аповесцяў "Крыло цішыні" і журнальным варыянтам аповесці "Ці так жывеш?".

А яшчэ пісьменнік плённа працуе ў галіне перакладу. Тут палітра самая разнастайная: У. Уітмен, А. Блок, А. Міцкевіч, Хо Шы Мін, А. Туманен, Э. Межэлайціс, Р.Гамзатаў, Д. Паўлычка ды многія, многія іншыя.

Зайздросная творчая спадчына і, дай Бог, каб яна доўжылася доўгія-доўгія гады.

*Я. Палубятка.*

№ 4 (492) 24 СТУДЗЕНЯ 2001 г. Наша Слова

Язэп Палубятка




*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары)*

Калодка спыніў машыну пасярод лужыны, быццам іншага месца не існавала, але ўрач, які заўжды памятаў клятву Гіпакрата, быў нястрыманы ў сваіх міласэрных памкненнях. Ён рашуча скочыў у ваду і, як на грэх, трапіў у глыбокую наезджаную каляіну, паслізнуўся на слізкім дне, страціў раўнавагу і ўпаў. Але і гэта не зменшыла яго рашучасці ў міласэрнасці. Банкевіч хуценька выскачыў з лужыны, падбег да хворага і павярнуў яго на спіну.

Пасля першага беглага агляду чалавека ўрач засумняваўся ў правільнасці дыягназу, які паведаміла ім па тэлефоне невядомая "ўрач-практык са шматгадовым стажам". У мужчыны з сінюшным тварам і асабліва непаўторным фіялетавым колерам носа было спакойнае і раўнамернае дыханне, якое бывае ў людзей пры глыбокім сне. Твар яго быў увесь у сіняках і крывападцёках, а з рота ішоў смярдзючы пах перагару.

І без кардыяграмы было зразумела, што першапачатковы дыягназ канчаткова адпадае.

Прыступ міласэрнасці ў Банкевіча змяніўся прыступам гневу. Ён ужо другі тыдзень непрымірыма ставіўся да тых, хто шмат п'е, абзываў такіх людзей помпамі, алікамі, сінюшнымі насамі. Слоў гэткіх ён ведаў чортведама колькі.

Калі казаць пра Рыгора Банкевіча, як пра чалавека, то да апошняга часу ён быў самым звычайным п'яніцам. Зранку і да вечара ён быў заняты клопатамі, каб напіцца. Прапіваў усю сваю заработную плату, краў казённы спірт, а таксама дэфіцытныя лекі і прадаваў іх. Выручаныя грошы ішлі на выпіўку. Пасля таго, як Банкевіч звязаў сваё жыццё з гарэлкаю, яму давялося памяняць шмат пасадаў у мясцовай райбальніцы, пакуль урэшце яго апошні раз строга не папярэдзілі і не далі апошні прытулак — урач "Станцыі хуткай медыцынскай дапамогі". Але і на гэты раз ён не спыніўся: у той жа самы дзень "абмыў" сваю новую пасаду. Урэшце, здавалася людзям, што нішто не можа спыніць чалавека, занадта смачнаю для Банкевіча была гарэлка. Яго нават не стрымала тое, што з ім разышлася жонка — яго першае і апошняе каханне. Спыніла сляпая бяздумная выпадковасць. Аднойчы, калі ён з вялікімі цяжкасцямі здабыў пляшку віна (папростаму "чарніла") і, ад відушчага начальніцкага вока, шмыгануў у гусценькі вішнячок, які рос у далёкім куце бальнічнага саду за прыбіральняй, адбылося нешта відавочнае, але неверагоднае. Перад тым у прыбіральню зайшлі дзве жанчыны, і пад напорыстае дзюрчанне ў іх ішла разважная гутарка пра мужчынаў. І калі адна з іх ненарокам памянула Банкевіча, то другая адрэагавала коратка: "А, Банкевіч — безнадзейны п'яніца".

Банкевіч, вядома, даўно ўжо прывык да розных гучных эпітэтаў у свой адрас, але словаспалучэнне "безнадзейны п'яніца" вельмі не спадабалася яму. Седзячы ў вішнячку, ён доўга разважаў над выказваннем, нават параўнаў яго з прафесійнымі медыцынскімі выразамі " безнадзейны хворы", што значыць — нябожчык. А тут безнадзейны п'яніца — пэўна, значна горш. У выніку роздуму над пачутым пра сябе Банкевіч вырашыў (толькі!) праверыць сябе: ці зможа ён не піць?

Нявыпітую бутэльку віна Банкевіч занёс у сталярку, чым вельмі здзівіў сталяра, бо не было яшчэ выпадку, каб доктар з кім-небудзь дзяліўся. А калі апошні катэгарычна адмовіўся ад сваёй долі, то сталяр зняў шапку, заклапочана пачухаў лысіну і нясмела запытаў: "Не атрута?"

Пасля скасавання шлюбу Банкевічы разышліся па пакоях: у адным — жонка і дванаццацігадовая дачка, у другім — сам Банкевіч. Доктар заўжды быў за здаровы лад жыцця, а ў апошні час стаў схіляцца да спартанскага. У яго пакоі не было ніякай мяшчанскай атрыбутыкі: ложак, тумбачка, голыя сцены і лямпачка, якую да чарнаты засядзелі мухі. Усё астатняе, што не адабрала жонка пасля падзелу маёмасці, дбайны гаспадар вынес і абмяняў на гарэлку.

У першы дзень свайго новага жыцця Рыгор Банкевіч, калі вярнуўся да хаты, папрасіў у дачкі якую-небудзь кніжку і ўвесь вечар чытаў апавяданні пра подзвігі піянераў-герояў.

Такія паводзіны былога мужа вельмі здзівілі яго былую жонку.

На наступны дзень, калі доктар зноў вярнуўся цвярозы, памыўся ў ванне і ўзяўся за кніжку, былая жонка адступіла ад сваіх правілаў (пасля скасавання шлюбу яны прынцыпова не размаўлялі паміж сабою) і спытала:

— Ты часам не захварэў ?

Рыгор Банкевіч адказаў ціха і ветліва, як у першыя гады іх сумеснага жыцця:

— Не! Дзякуй ! Я зусім здаровы.

Гэты адказ здзівіў яе яшчэ болей.

Яшчэ праз два дні, калі Рыгор Банкевіч апрануў свой стары спартыўны касцюм, абуў дзіравыя ў падэшвах кеды і пайшоў займацца фізкультурай, былая жонка разгубілася.

Праз тыдзень Банкевіч зусім напалохаў яе да смерці. За грошы, што давалі хворыя за дэфіцытныя лекі і ўколы, ён купіў шпалеры і пачаў абклейваць сцены.

Тады былая жонка выбрала момант і спытала ў былога мужа:

— Ты жаніцца надумаў?

Банкевіч зноў адказаў ціха і ветліва:

— Не! З мяне хопіць! Я ўжо меў радасць зрабіць такое глупства.

Адказ былога мужа крыху супакоіў яе: другой жанчыны, значыць, не мае яшчэ. Тым не менш яна вырашыла дзейнічаць.

Паеля такой кароткай, але вельмі інфарматыўнай размовы яна пайшла на кухню, зрабіла два вялізныя бутэрброды з каўбасою і паслала дачку ( нявіннае дзіця — ахвяра чалавечых інтарэсаў! ), каб тая пачаставала свайго бацьку.

...Калі канчаткова дыягназ хваробы чалавека быў устаноўлены, доктар Банкевіч устаў і рашуча накіраваўся да машыны "Хуткай дапамогі" ды ў гэты момант да яго прыйшла геніяльная па прастаце, але жудасная па сутнасці думка: той, хто тэлефанаваў на "Станцыю хуткай дапамогі" напэўна зараз назірае за ім. І тут ўжо лайся ці не лайся, а чалавек, няхай сабе і п'яны ў "дугу", не можа быць пакінуты доктарам на вуліцы.

Ад такой простай думкі ў доктара самлелі ногі і ўвапрэў лоб. Некалькі хвілін Банкевіч стаяў у роздуме пасярэдзіне лужыны, думаючы, што рабіць далей, і, урэшце, вырашыў, што рызыкаваць апошнім месцам работы, ды яшчэ пад час цвярозага жыцця, не варта.

Банкевіч вярнуўся назад, зноў прысеў ля п'янага чалавека і ціхім жаласлівым голасам успомніў маму.

Гледзячы на ўсё гэта, мастак абавязкова намаляваў бы вялікае палатно і даў бы яму назву "Сум на беразе жоўтай ракі".

У гэты момант каля "Хуткай дапамогі" спынілася міліцэйская машына. З кабіны выскачыў зухаваты лейтэнант, а з буды, дзе звычайна возяць затрыманых, выйшла пяць дружыннікаў.

Лейтэнант з важным выглядам перахіліўся цераз Банкевіча, і стаў разглядаць чалавека на зямлі. Для яго ён быў ні больш ні менш, як пацярпелы.

— Жывы? — спытаў міліцыянер у доктара ціхім і спалоханым голасам.

— А што з ім станецца, — злосна прабурчаў у адказ Банкевіч.

— Калі ты прыехаў, то тут хтонебудзь быў яшчэ, — лейтэнант хоць гаварыў ціха, але даволі ўпэўнена.

— Каб хто - небудзь быў з ім, то, напэўна, зацягнуў бы яго дахаты, а не кінуў бы тут.

— Як дахаты? Я не разумею цябе. Некалькі мінут назад, — лейтэнант хлусіў, бо з таго часу прайшло добрыя паўгадзіны, — пазванілі дзяжурнаму і сказалі, што на вуліцы Сонечнай ідзе бойка: сценка на сценку. Ёсць пацярпелыя і нават адзін забіты. Напэўна, гэты.

Слава Калодка, які стаяў збоку, раптам гучна рассмяяўся: у яго таксама з'явілася геніяльная ідэя, што была варта смеху.

— А нам пазванілі і сказалі, што на Сонечнай вуліцы чалавек памірае ад інфаркту.

Усё геніяльнае — простае. І гэтая геніяльная прастата рассмяшыла ўсіх астатніх.

Адзін з дружыннікаў уважліва пагледзеў на чалавека, які ляжаў і пазнаў яго.

— Ой! Гэта ж Ванька Бубянцоў.

Лейтэнант устрапянуўся і радасна пацёр рука аб руку.

Другі дружыннік, як добры сышчык, адшукаў у кустах пустую бутэльку і, як істотны доказ злачынства, паказаў яе усім.

Справа высветлена, заява не падцвердзілася — ад неспадзяванай удачы лейтэнант весела затупаў нагамі.

— Ванька Бубянцоў, кажаш? Добра ведаем ... Сапраўды Ванька Бубянцоў?

— А хто ж яшчэ! Я яго ведаю, як аблупленага. Калісьці працаваў у нас ...

— Так ... Усё ўрэшце ясна. Паехалі, хлопцы. Астатняе — клопат медыцыны.

— Як медыцыны? — зароў збянтэжаны Банкевіч, страціўшы надзею пазбавіцца ад непажаданага пацыента. — Збіраць п'яніц — ваш занятак. Але яго ўжо ніхто не слухаў: дружыннікі і лейтэнант сядзелі на сваіх месцах, а шафёр што сілы ціснуў на "газ".

Міліцэйскі нарад ехаў з месца здарэння значна хутчэй, чым ехаў сюды.

— Дапамажы !

Слава Калодка зразумеў доктара з паўслова. Праз імгненне бязвольнае цела Ванькі Бубянцова глуха ляпнулася ў кузаў.

План доктара Банкевіча быў вельмі просты. Трэба дагнаць міліцэйскую машыну, абагнаць яе, стаць упоперак вуліцы і ... прымусіць міліцэйскі нарад забраць да сябе п'янага.

— Цісні, лётчык, цісні! — крычаў не сваім голасам доктар шафёру нібы ў гэты момант вырашалася пытанне жыцця і смерці чалавека.

— Спакойна, Банік! Толькі спакойна! — самаўпэўнена цвярдзіў Калодка. — Яны далёка на сваёй калымазе не ўцякуць. Калі я не абганю іх, то з'ем свае шафёрскія правы і ніколі не сяду ў машыну.

Вуліца Сонечная была напалову выплескавана коламі і добры дзесятак праходжых быў абляпаны з ног да галавы брудам. "Хуткая дапамога" імчала наўздагон.

Абзываць міліцэйскую машыну "калымагаю" Слава Калодка меў падставу. Гэта была настолькі старая і настолькі заезджаная машына, што яе абганялі падлеткі-веласіпедысты.

... Але ўсё ж Слава Калодка памыліўся, не разлічыў свае магчымасці, перабольшыў свае здольнасці.

Дагнаць міліцэйскі фургон ён змог хутка, але аб'ехаць яго, каб урэшце спыніцца папераздзе, як задумаў Банкевіч, яму не ўдалося. Фургон займаў усю праезджую частку вуліцы, а шафёр, як прадстаўнік неабмежаванай улады, прывык заўжды ездзіць толькі пасярэдзіне дарогі. Так яны заехалі — адна машына за другою — у двор раённага аддзела ўнутраных спраў.

Лейтэнант і шафёр-сяржант хуценька выскачылі з машыны і, як зайцы з перапуду, стрымгалоў сіганулі ў будынак райаддзела, замкнулі дзверы на ключ. Дружыннікі засталіся ў будзе.

І ў гэтай складанай сітуацыі, якая ўзнікла так нечакана, доктар Банкевіч знайшоў выйсце. Ён вырашыў кінуць п'янага чалавека прама ля ўваходу і спакойна паехаць на "Станцыю хуткай дапамогі".

Але яго плану не суджана было здзейсніцца. Людзі, што закрыліся ў будынку, нібы ўмелі чытаць думкі другіх на адлегласці. Адчынілася фортка ў акне дзяжурнага, і сіплы строгі голас адтуль папярэдзіў іх, што яны не паспеюць даехаць да бальніцы, як аўтаінспектар адбярэ правы ў шафёра і ўрэшце паставіць усе машыны "Станцыі хуткай дапамогі" на прыкол.

Гэта ўжо сітуацыя! А калі так, то ў справу абавязкова ўмешаецца начальства. Банкевіч ужо меў ад начальства дзевяцьсот дзевяноста дзевяць папярэджанняў, заўваг, вымоў у асноўным па часцы розных выбрыкаў пасля ўжывання і злоўжывання медыцынскага спірту, а таксама гарэлкі, віна, самагонкі, і яму не хацелася лішні раз дражніць сабак, бо ўсё роўна ніхто не паверыць, што ён, Банкевіч, быў на дзяжурстве цвярозы.

Банкевіч уступіў, але гэта не значыць, што міністэрства аховы здароўя ў асобе доктара Банкевіча пацярпела паражэнне ў бойцы за чалавечую душу з усемагутным міністэрствам унутраных спраў. Проста такая тактыка ў гэтым выпадку была не эфектыўнай, не давала жаданага выніку і таму адпадала.

Здавалася, усё зразумела, але доктар раззлаваўся і пачаў пагражаць тым, хто зачыніўся ў будынку, паабяцаў, што будзе тэлефанаваць начальніку райаддзела. Нашчадкі жалезнага Фелікса, што схаваліся за гэтымі грознымі сценамі, ветліва і добразычліва падалі праз фортку тэлефон, і ў Банкевіча прапала ўсякае жаданне кудынебудзь званіць.

Далей доктар пачаў ганьбіць тых, хто так несумленна абышоўся з п'яным чалавекам, а разам з імі і ўсю мясцовую міліцыю; затым ён памянуў нядобрым словам органы ўнутраных спраў увогуле. У адказ яму пачуўся дружны смех, які ў асобных выпадках быў падобны на конскае іржанне.

Урэшце Банкевіч пайшоў на дружалюбныя перамовы, але і з гэтага нічога не атрымалася.

— Ну, хлопцы , выслухайце хоць мяне.

— Калі ласка.

— Ён жа п'яны. Ён жа ваш кліент.

— Не, мілы мой! Ён не проста п'яны, ён п'яны ў дрызіну. Тым болей, гэта ж Ванька Бубянцоў ...

— Бубянцоў ...

— Валацуга ...

— Нехрысць ... — непрымірыма загаманілі за міліцэйскімі мурамі людзі ў некалькі галасоў.

— Вось і канцы яго ў мяшок. Няхай праспіцца.

— А калі ён здохне, згарыць ад гарэлкі. Нас жа па судах зацягаюць.

— Ён здаровы. Ён выжыве, — у голасе доктара адчувалася шкадаванне.

— Твае словы нам не гарантыя. Да справы іх не падшыеш. А калі і выжыве, то ў яго ўся морда расквашана. Ён праспіцца і раненька пабяжыць да вас у лякарню. Вы яму паспачуваеце, выдасце даведку пра цялесныя пашкоджанні, а ён з гэтаю даведкаю да пракурора: у міліцыі здзекаваліся, мардавалі. І нас зноў па судах зацягаюць. Так ці не?

— Так, — неахвотна пагадзіўся Банкевіч.

— Ды ведаем мы гэтага анцыхрыста ...

— Ён на ўсё здольны, — зноў залямантавалі за дзвярыма.

— А ты шпільнеш яму адзін - два ўкольчыкі — і парадак. І калі што-небудзь здарыцца з ім у вашай багадзельні, то цябе за гэта не пасадзяць і з працы не выганяць. У вас усяроўна: ці сам памрэ чалавек, ці вы яго зарэжаце пад час аперацыі — ніхто не нясе адказнасці. Так ці не?

— Так, — пагадзіўся другі раз Банкевіч, развярнуўся і пайшоў да машыны, дзе чакаў яго Слава Калодка. Ён падрыхтаваўся ўжо да самага горшага і таму засунуў свае шафёрскія правы, як мага далей, пад сядзенне.

*(Працяг у наступным нумары).*





# "БОЖА, АДЗІНСТВАМ САГРЭЙ..."

З снежня сваё парафіяльнае свята адзначыла Берасцейская грэка-каталіцкая парафія святых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя. Апостал Пётр здаўна лічыцца дабравеснікам і апекуном Рымскай Царквы, а яго брат апостал Андрэй – дабравеснікам і апекуном цэркваў Усходніх. Абраз з выявай святых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя, які падараваў Рымскаму Архірэю Паўлу VI Канстанцінопальскі патрыярх Атэнагор I падчас гістарычнага спаткання ў Ерусаліме 5 студзеня 1964 году, стаў знакам прымірэння пасля многіх стагоддзяў варожасці і ўзаемнай непрыязні паміж каталікамі і праваслаўнымі. Тады абодва першагерархі знялі адзін з аднаго праклёны, што заставаліся пасля трагічнага падзелу Царквы Хрыстовай у 1054 годзе. Таму й невыпадкова, што ў горадзе, у якім была падпісана Берасцейская царкоўная Унія 1596 году, парафія мае імя святых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя, і вельмі шмат робіць дзеля Еднасці Царквы Хрыстовай.

Прывітаць і раздзяліць з берасцейскімі ўніятамі іх свята прыехаў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, а таксама ўніяцкія вернікі з Пінску, Івацэвічаў, Бярозы, Баранавічаў, Слоніма, Маларыты...

А яшчэ віталі берасцейцаў шаноўныя госці з Менску: народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін і бард Алесь Камоцкі. Узрушвала душы ўсіх прысутных глыбокае, мілагучнае слова Р. Барадуліна, у светлым, святочным храме рабілася яшчэ велічней ад вершаў Паэта і песень Алеся Камоцкага. Госці з Менску падаравалі ўніяцкім парафіям Берасцейшчыны і Слоніма свае аўдыёкасеты "Псалмы" і ўсе – дарослыя і дзеці – атрымалі аўтографы, а каму пашчасціла – кнігу ад Рыгора Барадуліна "Лісты ў Хельсінкі". Ды захацелася пакінуць свой аўтограф паэту, аўтару кнігі "Евангелле ад мамы". Здаецца, гэтую кнігу чытае сама Маці Божая...

***Сапраўды, што – Парыж...***
***І што – Рым.***
***Настальгічна гарым***
***І ў туманнай мы Англіі.***
***У далонях тваіх – "Евангелле ад мамы".***

Берасцейскія ўніяты разам з вернікамі іншых грэка-каталіцкіх парафіяў рыхтуюць і выдаюць адзіную краёвую грэка-каталіцкую газету "Царква". Шматлікія вернікі і супрацоўнікі газеты "Царква" з'яўляюцца сябрамі ТБМ. У юбілейным годзе яны падрыхтавалі і выдалі сумесна з выдавецтвам "Сафія" ў Полацку беларускую версію "Акафісту да Маці Божай Нястомнай дапамогі", "Божую Літургію між святымі айца нашага Яна Залатавуснага", юбілейны малітоўнік "Блаславёны, Ты, Госпадзе", у якім змешчаны малітвы Усходніх Цэркваў: малітвы армянскай, візантыйскай, копцкай, эфіёпскай, халдэйскай, сірыйска-антыяхійскай, мараніцкай традыцый. Рыхтуюць да друку "Акафіст да мучанікаў Падляшскіх".

Да 10-х угодкаў адраджэння Уніі ў Беларусі выйшла ў Берасці кніга Міхаліны "Жыццярыс святое пакутніцы Уніі".

... А яшчэ гучалі ў храме малітоўныя песні ў гонар Ісуса Хрыста і Найсвятой Багародзіцы, а таксама новая песня, напісаная менавіта на свята Берасцейскай парафіі святых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя:

***Госпад Ісусе, Збавіцелю наш,***
***Ведаем, Божа, крыжовы твой шлях.***
***Знішчы разлады і сілу нам дай***
***Славіць імя Тваё, Божа, і Край...***
***Божа, адзінствам сагрэй,***
***З намі – Пятро і Андрэй...***

# "МЕЛОДЫЯ СРЭБНАЕ НОЧЫ" Ў БЕРАСЦІ

Цікавая і адметная сустрэча адбылася напрыканцы лістапада ў Берасцейскай абласной бібліятэцы. Да берасцейцаў прыехалі Ніна Мацяш – з Белаазёрску, і паэт з Цярнопалю – Валадзімір Барна. Яшчэ ў 1998 годзе ў Берасце выйшла кніга В.Барны "Мелодыя срэбнай ночы", а пераклала яе на беларускую мову – Ніна Мацяш.

Валадзімір Барна – сябра Саюза пісьменнікаў Украіны, аўтар трох паэтычных зборнікаў, кіраўнік Цярнопальскага таварыства "Лэмкаўшчына". Творы яго перакладаліся польскай і вугорскай мовамі, а цяпер – загучалі і па-беларуску.

Шчыра і багата гучала ўкраінская мова і вершы з вуснаў аўтара, гожа і спеўна перастварала паэзію В. Барны Ніна Мацяш. Свае вершы чыталі і берасцейскія паэты. На "Мелодыю..." прыйшлі шматлікія аматары паэзіі, Н. Мацяш і В. Барна яшчэ доўга пакідалі аўтографы... І доўга гучалі ў душы радкі:

***А я...***
***Я шукаю каранёў прадзедаўскай хаты,***
***Я разгадваю код свайго радаводу,***
***Я вывучаю белыя плямы майго жыццяпісу,***
***Каб ведаць:***
***Адкуль мой фамільны пачатак,***
***Хто растуліў мае вусны гэтаю моваю,***
***Дзе крыніца маёй Лэмкаўшчыны?***

С. Варонік, Берасце.

# "Жыццё і паняцце"

*У змрок вечаровы гляджу я самотна,*
*Ні птушак, ні зорак...*
*І слоў не чуваць.*
*Бязлюдна-бязлюдна, халодна – халодна,*
*Крычы колькі хочаш, ды нельга крычаць".*
***("Адчай" Ігар Пракаповіч).***

Не часта даводзіцца бываць у Менску. Апошні прыезд пакінуў непрыемныя ўражанні. Чэргі, бруд, пустэча. І каго не пыталася на плошчы Якуба Коласа, як прайсці да кнігарні Саюза Пісьменнікаў, ніхто не змог растлумачыць. Час быў абмежаваны, паехалі на вакзал, наведалі бліжайшыя кнігарні, кіёскі і нідзе не змаглі набыць беларускія кніжкі і, нават, газеты. Ці перыядычныя выданні хутка разбіраюць, ці іх недастатковая колькасць? Мы з знаёмым ехалі ў метро, размаўлялі па-беларуску, на чарговай станцыі сказала: "Мы яшчэ не выходзім?" На што нейкі пасажыр гыркнуў: "Ваша месца ў турме, а не выходзіць!" Раней з цяжкасцю верылася, калі паказвалі па НТВ толькі за гаворку на роднай мове можна трапіць у камеру. Цяпер упэўнілася. Такія рэаліі жыцця.

Тым не менш шмат уражанняў і адкрыццяў. Гэта сустрэча з Алегам Рудаковым з Іркуцка, вельмі актыўна працуе на беларускай глебе ў далёкай Сібіры, з'яўляецца рэдактарам газеты "Маланка", праводзіць розныя цікавыя мерапрыемствы, гуртуе вакол сябе беларусаў. Былы вайсковец. Яго біяграфія змешчана ў апошнім нумары бюлетэню "Кантакты і дыялогі". У гэтым нумары змешчаны грунтоўныя даследаванні пра жыццё беларускай дыяспары на неабсяжных прасторах Сібіры (Ул. Галуза, Навасібірск, Сяргей Бальшакоў, Цюмень, Галіна Гедвіла, Іркуцк).

З асалодай і задавальненнем прачытала першы нумар часопіса "Куфэрак Віленшчыны", галоўны рэдактар Міхась Казлоўскі – краязнаўца. Гэты нумар прысвечаны Генадзю Каханоўскаму – вучонаму, краязнаўцу, старэйшаму настаўніку. Памятаю, мне дзядзька Лявон Луцкевіч даваў мне прачытаць кніжку Г. Каханоўскага "А сэрца ўсё імкне да бацькоўскага краю". Гэты чалавек вядомы даследчык, вельмі сумленны навуковец і кніга з аўтографам Каштоўная. У нумары змешчаны лісты Зоські Верас да Г. Каханоўскага, у якіх падрабязныя адказы на многія пытанні. У год 70 г. Ул. Караткевіча з лістоў пісьменніцы знайшла для сябе цікавыя і карысныя заўвагі па творах пісьменніка ў назовах птушак і раслін. Напрыклад: зяблік. А па беларуску – бярозаўка, або зябёр і т.д. Да глыбіні душы кранулі лісты Мікалая Грышкевіча. Асабліва запомніліся новыя вершы Віктара Шніна "Мне снілася Вільня". Пра ўсё нельга апісаць. У часопісе змешчана багата фатаздымкаў, архіўных дакументаў. Ён можа служыць дапаможнікам і для настаўнікаў літаратуры і для гісторыкаў і проста для ўдумлівага чытача. Міхась Казлоўскі кідае зерне ў поле, узаранае Генадзем Каханоўскім і ён убачыць плён свае працы. Бо і яму гэта зямля дадзена Богам.

Прачытала чацвёрты лістападаўскі нумар газеты "Ракаўскі шлях", ён цалкам прысвечаны памяці продкаў "Успамінаў іх жывымі". Прачытала пра багатую сям'ю Янушкевічаў і Рагойшаў. Багата таленавітых людзей дала Ракаўская зямля. А каб не вайна ды страшныя 30-я гады? Задумваешся пра сэнс жыцця, яно дадзена адзін раз.

Прачытала першыя тры нумары газеты "Шыпшына", якая пачала выходзіць у Паставах. Яна мне спадабалася, карысная і хацелася б мець чарговыя нумары. Літаратурна-культурная газета. Жыццё і паняцце ў правінцыі іншае, але яно не "прызямляе" чалавека, а наадварот. У іх больш чысціні, душэўнасці. У мінулым годзе адкрыла для сябе духоўную, філасофскую паэзію Ігара Пракаповіча. Мы з Мірай Лукшай у дзень Святой Ефрасінны па дарозе ў Полацк чыталі новыя і новыя радкі вершаў, захапляліся. Гэта невыпадкова. На пастаўскай зямлі жыве шмат вядомых далёка па-за межамі Беларусі людзей – ганчар, настаўнік Уладзімір Шчэрба, паэт, настаўнік Ігар Пракаповіч, працавалі П. Мядзёлка, Барыс Кіт, Ігнат Буйніцкі, Ул. Дубоўка, свята "Іграй гармонік" можна бясконца працягваць. Лепшыя творы лепшымі пісьменнікамі напісаны ў ціхім кутку.

У газеце мне да спадобы: па-першае, старонка творчасць і культура, літаратурная старонка, вядома, экалагічныя навіны. Не вельмі – анекдоты.

Адкрыла для сябе новыя цікавыя, інтэлектуальныя выданні. Яны павінны быць у бібліятэках школ. Але ж гэта немагчыма – няма грошай, наклад іх толькі 299 асобнікаў, нават для адной бібліятэкі горада Беларусі не хапіла б. І выдаюць іх бескарысна апантаныя людзі. І многія, дзякуючы актыўнай дзейнасці Таварыства Беларускай мовы імя Фр. Скарыны. Паводле апошніх звестак ЮНЕСКА наша, беларуская мова пад пагрозай знікнення, яна занесена ў Чырвоную Кнігу ЮНЕСКА. Але калі ж наша мова не была пад пагрозай знікнення? То яе называлі мужыцкай, то новай, на якой нельга выказвацца. А яна жыве і не пустазеллем прарастае, цудоўнымі кветкамі.

Жыве Беларусь!

*Леакадзія Мілаш, г.Вільня.*

# КАЛЯНДАР СТУДЗЕНЯ

# Да 70 – годдзя Міхася Мушынскага

Магчыма многія з нас і чулі, што існуе такі вузкі кірунак творчай дзейнасці ў бязмежным моры філалогіі, як тэксталогія. Паколькі існуе мова, існуе літаратура, то ёсць і творцы. Хлеб тэкстолага і ёсць даследаванне тэкстаў што выйшлі з-пад пяра таго ці іншага літаратара.

Ёсць такія людзі і ў беларускай філалогіі. І сярод іншых такой значнай фігурай з'яўляецца Міхась Мушынскі, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Міхаіл Іосіфавіч Мушынскі нарадзіўся 24 студзеня 1931 года ў вёсцы Мокрае Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і чыгуначніка.

У 1955 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ і адразу стаў працаваць рэдактарам у яго выдавецтве. З наступнага года – ён навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я.Купалы Акадэміі навук, а з 1979 года загадчык аддзела выданняў і тэксталогіі. Плённа працуе як крытык, даследуе таксама гісторыю беларускай крытыкі і літаратуразнаўства, творчую манеру такіх пісьменнікаў, як Я. Колас, М. Гарэцкі, К. Чорны, М. Зарэцкі, М. Лынькоў ды іншыя.

Па выніках гэтых даследаванняў былі напісаны манаграфіі: "Ад задумы да здзяйснення". Творчыя гісторыі "Новай зямлі" і "Сымона-музыкі" (1965), "Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20-30-я гады" (1975 г.).

Міхась Мушынскі з'яўляецца адным з першых на Беларусі аўтараў асобнага выдання "Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці".

Пералік твораў, што выйшлі з-пад пяра гэтага таленавітага навукоўца на зайздрасць доўгі. Тут і "Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 40-я – першая палова 60-ых Г.Г.", "Каардынаты пошуку: Беларуская крытыка: набыткі, перспектывы", "і нічога апроч праўды: Якой быць гісторыі беларускай літаратуры", "Беларускае Савецкае літаратуразнаўства", "Нескораны талент: Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага" і іншыя.

Міхась Мушынскі, як буйнейшы тэкстолаг у Беларусі, прымаў непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы і выданні навукова-каментаваных збораў твораў І. Мележа, М. Лынькова, М. Гарэцкага, П. Пестрака, З. Бядулі, П. Броўкі, М. Зарэцкага, поўных збораў твораў М.Багдановіча і Я. Купалы.

Ён з'яўляецца адным з аўтараў "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" і "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры".

За ўдзел у працы над гэтымі творамі М. Мушынскі сярод іншых даследчыкаў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

***Язэп Палубятка.***

# ВЫЦІНАНКІ

## ВЯЧАСЛАВА ДУБІНКІ

15 студзеня 2001 года ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбыліся прэзэнтацыя альбома і адкрыццё выставы "ВЫЦІНАНКІ Вячаслава Дубінкі"



# Спадарыня Марыя

Тонкія васковыя свечкі гараць у руках маладых дзяўчатак. Промні ад полымя свечак адбіваюцца ў вокнах царквы. Гучны, выразны голас святара прамаўляе малітвы, словы іх падхоплівае хор.

Да ўрачыстага каляднага набажэнства яшчэ паўсутак. Айцец Ігар Лазоўскі адпявае настаўніцу. Марыю Васільеўну Цясёлкіну, якая вучыла ў Светлагорскім Гуманітарным ліцэі трох яго дзяцей.

Марыя Цясёлкіна – Спадарыня Марыя, як звярталіся да яе, згодна старой беларускай традыцыі і педагогі і навучэнцы ліцэю, памерла напярэдадні Новага Году, Новага Веку, Новага – трэцяга Тысячагоддзя. Пашыраны інфаркт не пакінуў лекарам у рэанімацыі ніякай надзеі ў змаганні за яе жыццё. Пражыла Спадарыня Марыя 62 гады. Усяго 62!

Розныя гаворкі хадзілі па горадзе пра Спадарыню Марыю. Шмат хто лічыў яе дзівачкаю, асобай не ад гэтага свету. А была яна чалавекам шчырым, адкрытым, па дзіцячаму наіўным да самай апошняй хвіліны свайго зямнога жыцця. Разам з тым была чалавекам цвёрдым у сваіх перакананнях, нягнуткім перад цяжкімі рэаліямі жыцця, што дадавала ёй тых цяжкасцяў і праблемаў, якіх іншыя паспяхова пазбягалі.

І была Настаўніцай ад прыроды, ці ад Бога!

Пры дапамозе аднаго са сваіх былых вучняў, які заняў не апошняе месца ў кіраўніцтве горада, перасяхала ў канцы васьмідзесятых гадоў з вёскі ў Светлагорск. Працавала ў школе №2. Выкладала фізіку і матэматыку, затым, пасля з'яўлення школьных праграмаў інфарматыкі, пачала выкладаць і гэтую навуку.

Як сказала за жалобным сталом Зінаіда Паўлава, якая працуе ў сістэме адукацыі не адзін дзесятак год і блізка ведала Спадарыню Марыю, толькі яна, адна сярод матэматыкаў гораду, магла рашыць складаныя конкурсныя матэматычныя задачы. І вучыла гэтаму сваіх вучняў. Не адзін з кіраўнікоў гораду ў тыя часы аддаваў сваіх дзяцей для навучання матэматыцы Спадарыні Марыі.

Была яна шчыраю беларускай. Улюбёнай у цудоўную беларускую мову, якой карысталася заўсёды і на якой вучыла сваім навукам. Была актыўным сябрам БНФ "Адраджэньне", выконваючы ў арганізацыі малапрыкметную, для акаляючых незаўважную, але такую патрэбную і важную работу.

Я ўпершыню пазнаёміўся са Спадарыняй Марыяй недзе напачатку дзевяностых, калі праводзіў у школе № 2 вечар беларускай паэзіі. Прыемна было бачыць, якой шчырасцю і захапленнем тымі вершамі гарэлі вочы гэтай немаладой ужо жанчыны. Пасля, праз некалькі гадоў, распавяла мне Спадарыня Марыя пра тое, што многія з тых вучняў, якія слухалі тады вершы сталі сапраўднымі, актыўнымі патрыётамі нашай зямлі.

Апошнія гады, пасля выхаду на пенсію, Спадарыня Марыя працавала ў Светлагорскай філіі Беларускага Дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа, а таксама ў Доме дзіцячай і юнацкай творчасці. І там навучала дзяцей дакладным навукам. І хіба не дзіва тое, што навучэнцы Гуманітарнага ліцэю займалі прызавыя месцы на гарадскіх алімпіядах па дакладных навуках!

А яшчэ Спадарыня Марыя ў свой час скончыла музычную вучэльню, вельмі любіла іграць на скрыпцы. Пра гэта мала каму вядома, я таксама пачуў пра гэтае захапленне Спадарыні Марыі зусім нядаўна.

Жыла яна вельмі сціпла, каб не сказаць бедна. Усе свае заробкі аддавала дачцэ і ўнуку. Помню, роўна год таму, якраз на праваслаўныя каляды, былі мы са Спадарыняй Марыяй на семінары ў Гомелі. Арганізатары таго семінару, трэба аддаць ім належнае, вельмі добра карміці ўдзельнікаў, а яшчэ і выплацілі кожнаму па два мільёны старых рублёў камандзіровачных. Як радавалася гэтым нечаканым грашам Спадарыня Марыя! Сказала, што яна даўно ўжо так добра не харчавалася, а атрыманых грошай ёй хопіць, каб нейкі час карміць дачку і ўнука.

Можа гэтыя апошнія радкі стануць інфармацыяй для глыбокага роздуму тых, хто мае хоць нейкі ўплыў на ўладны рэжым, хоць прыведную магчымасць нешта змяніць у нашым беларускім жыцці! Ці нармальным ёсць тое, што настаўнік такога ўзроўню, як Спадарыня Марыя, працуючы і атрымліваючы настаўніцкую пенсію, жыве фактычна недаядаючы!

Хавалі Спадарыню Марыю нешматлікая блізкая радня, яе супрацоўнікі з Дома дзіцячай і юнацкай творчасці, Гуманітарнага ліцэю мы, сябры Светлагорскіх арганізацыяў БНФ і ТБМ.

Пахавалі на новых могілках. Жалобны стол ладзіўся клопатамі работнікаў ДДіЮТ і блізкіх суседзяў.

У сціплай кватэрцы Спадарыні Марыі, дзе на сценах, побач з царкоўнымі календарамі, пачэснае месца займае і вялікі партрэт Зянона Пазьняка, сядзелі за жалобным сталом людзі розных узростаў і палітычных поглядаў. У гэтым адчувалася нешта знакавае, нейкая мігічная сімволіка! Жалобныя словы прамаўляялі шчырая хрысціянка, дачка памерлай Лілея і перакананы атэіст, аўтар гэтых радкоў, дырэктар ДДіЮТ, камуніст Галіна Астроўская і старшыня Гомельскай абласной арганізацыі БНФ Віктар Раманішка. Калі адыходзіць у іншы свет добры, шчыры, паважаны чалавек, палітычныя і светапаглядныя адрозненні забываюцца, робяцца неістотнымі, адступаюць!

Кажуць, што чалавек, які адышоў, не памірае канчаткова, а жыве датуль, пакуль аб ім помняць жывыя.

Промні ад полымя высокіх, тонкіх васковых свечак, што трымаюць у руках ліцэісткі – вучаніцы Спадарыні Марыі, адбіваюцца ў вокнах царквы і ўзносяцца ў недасяжную вышыню! Куды імкнецца, пад гукі жалобнай малітвы душа памерлай!

Нахай там ёй будзе светла і спакойна!

*Вадзім Болбас.*
*07.01.2001 г.*

# Мы патрэбны Беларусі

***З 3 па 5 студзеня 2001 года адбылася алімпіяда школьнікаў Гарадзеншчыны па беларускай мове. На алімпіяду прыехала 80 школьнікаў пераможцаў раённых алімпіяд. 5 студзеня адбылося ўрачыстае закрыццё алімпіяды. Вядучы інспектар абласнога ўпраўлення адукацыі Тамара Рыгораўна Прадзед уручыла пераможцам і прызёрам граматы і падарункі, а ад абласной грамадскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны былі ўручаны пераможцам абласной і раённых алімпіяд кнігі Ларысы Геніюш "Выбраныя творы".***

**Першае месца занялі:**

- Бяленік Алеся, вучаніца XI класа СШ № 26 г. Горадні (наст. Арцюх А. Ф.)
- Бохан Аляксандра, вучаніца XI класа гімназіі № 1 г. Ліды (наст. Бохан Л. І.)
- Янкута Ганна, вучаніца X класа СШ № 26 г. Горадні (наст. Арцюх А. Ф.)
- Шубко Ульяна, вучаніца X класа СШ № 26 г. Горадні (наст. Арцюх А. Ф.)
- Шалкевіч Гражына, вучаніца IX класа Поразаўскай СШ Свіслацкага раёна (настаўніца Чорба В. Ф.)
- Шэндзік Дзіна, вучаніца IX класа Дзераўкоўскай СШ Слонімскага раёна, (настаўніца Быкава М.М.)
- Чарапко Вольга, вучаніца IX класа СШ № 1 г. п. Астравец (настаўніца Шаблінская Я. К.)

**Другое месца занялі:**

- Шырна Вольга, вучаніца XI класа гімназіі № 1 г. Ліды (наст. Бохан Л. І.)
- Ніканенка Сяргей, вучань XI класа гімназіі № 1 г. Ліды (наст. Бохан Л. І.)
- Шэйка Надзея, вучаніца XI класа СШ № 7 г. Ваўкавыска (наст. Рудзецкая І. А.)
- Касцецкая Дар'я, вучаніца X класа СШ № 4 г. Навагрудка (наст. Субач І. М.)
- Акулік Аксана, вучаніца X класа СШ № 5 г. Навагрудка (наст. Новік Г. Л.)
- Талкун Анастасія, вучаніца X класа гімназіі № 4 г. Смаргоні (наст. Рудая Г. Я.)
- Тумаш Вяслава, вучаніца X класа Сольскай СШ Смаргонскага раёна (наст. Фёдарава Т. А.)
- Рындзевіч Юлія, вучаніца IX класа СШ №2 г. Ашмяны (наст. Бражынская Т. Ф.)
- Цыбульскі Валеры, вучань IX класа СШ № 12 г. Горадні (наст. Шэмет С. П.)
- Ніскаўзкая Анжэла, вучаніца IX класа СШ №14 г. Ліды (наст. Аніскевіч Т. М.)
- Казлоўская Іна, вучаніца IX класа СШ №1 г. Скідзеля (наст. Лісай М. Ю.)

**Трэцяе месца занялі:**

- Марозава Таццяна, вучаніца XI класа гімназіі №1 г. Ліды (наст. Бохан Л. І.)
- Баламут Дар'я, вучаніца XI класа СШ №24 г. Горадні (наст. Маркевіч Т. Ф.)
- Сігай Юлія, вучаніца XI класа СШ № 2 г. Ваўкавыска (наст. Зуева А. А.)
- Ламанік Людміла, вучаніца XI класа СШ № 14 г. Горадні (наст. Кандратовіч В.П.)
- Санкевіч Кацярына, вучаніца X класа СШ № 33 г.Горадні (наст. Колас С. А.)
- Яўсейкіна Кацярына, вучаніца X класа СШ №6 г. Ваўкавыска (наст. Сушко М.А.)
- Карніла Вольга, вучаніца X класа СШ № 1 г.п.Карэлічы (наст. Карп Я. Ц.)
- Урбанайць Вераніка, вучаніца IX класа Сольскай СШ Смаргоньскага р-на (наст. Фёдарава Т. А.)
- Навагродская Ала, вучаніца IX класа гімназіі № 1 г.Ліды (наст. Бохан Л. І.)

**Сталі прызёрамі:**

- Кобелева Алёна, вучаніца XI класа Іўескай школы (наст. Жэбрык Л. С.)
- Крэчка Святлана, вучаніца XI класа Каралінскай СШ Зэльвенскага р-на (наст. Шэйка В. І.)
- Макоска Анастасія, вучаніца XI класа гімназіі г. Смаргоні (наст. Гурская Л. Я.)
- Сарока Таццяна, вучаніца XI класа Ражанкаўскай СШ, Шчучынскага р-на (наст. Клімовіч Ф.І.)
- Дода Анастасія, вучаніца XI класа ліцэю № 1 г. Горадні (наст. Несцяровіч В. Л.)
- Дрожджа Юлія, вучаніца XI класа СШ № 2 г. Шчучына (наст. Гусак М. В.)
- Сакалоўская Ірына, вучаніца X класа гімназіі г. Ліды (наст. Шот М. К.)
- Сцяцэнка Варвара, вучаніца X класа СШ № 10 г. Слоніма (наст. Мазур Г. М.)
- Латышонак Вольга, вучаніца X класа Астрынскай СШ Шчучынскага р-на (наст. Люткевіч Г. М.)
- Крывеня Ксенія, вучаніца X класа СШ № 3 г. Дзятлава (наст. Гармашук Т. М.)
- Рвачова Дар'я, вучаніца IX класа М. Берастаўіцкай СШ Берастаўіцкага р-на (наст. Качан М. А.)
- Пікта Аксана, вучаніца IX класа СШ №14 г. Навагрудка (наст. Пісарэвіч Г. В.)
- Мураўёва Ірына, вучаніца IX класа СШ № 5 г. Масты (наст. Палубятка С. І.)

***Была сфармавана з пераможцаў каманда для ўдзелу ў рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове якая адбудзецца ў сакавіку 2001 года ў горадзе Маладэчна.***

***Пасля ўручэння грамат і падарункаў выступілі з падзякай вучні, адна з вучаніц сказала: "Калі праводзяцца такія алімпіяды, то мы адчуваем, што мы патрэбны Беларусі."***

*Старшыня Гарадзенскай абласной Рады ТБМ імя Ф. Скарыны*
*А. Місцюкевіч*

# Хачу жыць лепей

Семінар з гэтай серыі, якую арганізуе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны паводле методыкі Вячкі Станкевіча, прайшоў у Лідзе. Кіраўніком семінару выступала Людміла Дзіцэвіч. Семінар праводзіўся на базе Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ. Слухачамі семінару былі людзі самых розных узроставых груп, ад школьнікаў да пенсіянераў.

Адначасова адбываліся сустрэчы старшыні ТБМ Алега Трусава з актывам і сябрамі ТБМ. Былі абмеркаваны праблемы Таварыства і мясцовых арганізацый ТБМ. Адбыўся абмен думкамі па пытаннях стратэгіі і тактыкі арганізацый ТБМ ва ўмовах жорсткага наступу на беларускую мову і беларускую адукацыю.

*Яраслаў Грынькевіч.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 22. 01. 2001.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 4
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 215 руб., 3 мес.- 645 руб.
*Кошт у розніцу:* 55 руб.